# НАВІНКІ

30 мая - 12 чэрвеня 2000 №10(32) Кошт свабодны




# Дзеці – наша будучыня...

**Куды ідзе моладзь? Каму яны сымпатызуюць? Хто яе выхоўвае? Гэтыя й іншыя пытаньні неадваротна паўстаюць перад нашым грамадзтвам у поўны рост...**

Календарнае лета традыцыйна пачынаецца ў нас са сьвяткаваньня Дня дзіцяці. Віноўнікі ўрачыстасьці падаюцца на публіцы як алегорыя нечага добрага, пушыстага, алівэртвістаўскага. Гэты стэрэатып пабудаваны на кантрасце з днём пагранічніка, што сьвяткуецца няпярэдадні, які сканчаецца беспределам «зялёных фуражак».
Колькі мы можам хлусіць самі сабе? Сьвяткуючы дзень дзіцяці, дарослыя нічога ня ведаюць пра дзяцей. Мы ўжо не разумеем іхняй мовы, мы ня ведаем, што адбываецца у іхніх пясочніцах. Дзеці на вачах становяцца чужымі.
Трэба нарэшце вызнаць: у асобе дзіцяці грамадзтва мае справу з самым непрадказальным ворагам сваіх устоеў.
Сёньня тынэйджэры ціснуць на сьвет дарослых. Яны больш канкурэнтаздольныя ў сучасным грамадзтве, чым бабулькі і нават продкі. Тынэйджэр – гэта мабільны агрэсіўны эгаіст, пераносчык ідэалёгіі Боні і Клайда. Гуманістычныя сурагаты папярэдняй эпохі поўнасьцю страцілі сваё гучаньне. Застаўся толькі пакаленчы калектывізм, у рамках якога фармуецца нездаровая ксэнафобія да сьвету дарослых, якая час ад часу праектуецца ў агрэсію. Падлеткаў, што зьбіраюцца на вуглах кварталаў, трэба баяцца як варожую армію.
Прэзыдэнт даў маху. На што яму здаўся дыялёг з апазыцыяй, якая й мухі не пакрыўдзіць. Імманэнтна варожая грамадзтву група – не Багданкевічы і Вячоркі, а маладая парасьль мясцовых Бівісаў і Батхэдаў, якая нясе сьмерць нашаму традыцыйнаму грамадзтву.

*(Працяг тэмы на стар. 4-5)*

**Чорная метка для дзелавой газэткі.**
*Стар. 3*

**ЗАКАДЫЧНЫЯ СЯБРУЧКІ**



на стар.4-5

***Пуцін і дзеці** або гісторыя ад першай асобы. Комікс* *на Стар.8*




**Васіль Быкаў «завіс» у Нямеччыне.**
**Стар.3**

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.
Нумар падпісаны да друку 03.06.2000 г., а 00.01. Тыраж 10100 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная Зорка» ВПП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №1622

 



# Гарачае лета'2000

## Пасьля г.зв. «Гарачай вясны» надыйшоў час фінансавых справаздачаў па грантах.




Нeяк незаўважна прашмыгнула разрэклямаваная апазыцыйнымі лідэрамі «Гарачая Вясна». Міліцыя, адтрубіўшы сваё, нарэшце ўздыхнула павольна. Аднак не да расслабухі цяпер героям вясновых «баталіяў з дыктатурай». Настаў час летняй сэсіі для апазыцыі.

Падобна студэнтам-троечнікам, бацькі дэмакраты тэрмінова даздаюць залікі, падцягваюць свае хвасты ды строчаць курсачы й дыплёмныя для заходніх экзамэнатараў. А вы думалі, жартачкі на кангрэсмэнскай стыпэндыі сядзець? Разгільдзяеў проста не перавядуць у наступны сэмэстар.

Аднак тут і зьяўляюцца галоўныя праблемы для нашых студэнтаў, якія не напружвалі сябе ані ў вучэньні, ані ў баі. Сыстэматычныя прагулы заняткаў па фізкультуры, незалік па практыцы дэманстрацыяў, двойкі па асновах паблік-рылэйшн... Што можа яшчэ характарызаваць нерадзівага вучня. Да таго ж пастаянныя праблемы з дэканам, які гразіцца недапусьціць да здачы сэсіі ўсю групу. Над жаданай клінтанаўскай сьцяпухай навісла рэальная пагроза.

Таму тут і там толькі й чуваць: «Слухай, Вячорка, дай канспэкт па супраціўленьню падручнымі матэрыяламі сьпісаць!» – «Мікола, а ты падрыхтаваў «бомбы» на выбарчае права?» – «Лебедзь зноў па «бегунок» пабег. Мабыць, міжнародны турызм пераздае».

Трышчыць пер'е. Пішуцца фінансавыя справаздачы. А фінансавая справаздача – гэта ня проста галімая курсавая па бугалтарскім уліку, гэта – гадавы баланс прадпрыемства. А тут пытаньні дэбету, крэдыту й нулёвага сальда. «Скажыце, а грошы на алькаголь паказваць у графе «Друк улётак»?» – «Не, у прастаўнічыя расходы». «Аўтамабіль «аўдзі» лічыцца прынтэрам ці рызографам?» – «Дурань. Пішы яго ў аўдыёапаратуру.» «А чаму ў цябе чатыры месяцы «Гарачай вясны», а ня пяць, як ува ўсіх?» – «Тамушто мы правялі 4 «Маршы свабоды» й 2 «Чарнобыльскіх шляхі» запар».

Ужо зараз можна з пэўнасьцю казаць, што вынікі апошняга вясновага сэмэстру сьведчаць: большасьці экзамэнаваных сьвеціць работа на восень. Так што ні пра якія летнія вакацыі на Канарах думаць не прыходзіцца.

У годзе вучыцца трэба, шаноўнае спадарства●

**Генадзь Карэйка**

### РэфлЕксіі

## У пошуках гарачай вады.

Калі я яшчэ быў зусім маленькім хлапчуком, то ў першыню ў мае мозгі заляцела пытаньне: Чаму гэта зьнікае вада? Тады мне тата адказаў, што ўсё гэта ад таго, што мы жывем у вялікай і заможнай краіне. Мне такі адказ падаўся нейкім падазроным. Акінуўшы поглядам родную двухпакаёвую дзяржаўную жылплошчу, што месьціцца на ўскрайку Менску, зірнуўшы на вуліцу,я падумаў: «Не, бацька мяне дурыць!» І сапраўды, заможная краіна неўзабаве развалілася, а гарачая вада працягвала пэрыядычна зьнікаць. Сёньня, пасталеўшы і паразумнеўшы, я зразумеў сэнс гэтых гульняў з гарачай вадой. Аказваецца, гарачую ваду адключаюць, не з-за нейкай там абстрактнай прафіляктыкі трубнай гаспадаркі, а ў мэтах павышэньня узроўню камунікацыйнасьці паміж людзьмі. Уявіце, атрымаў чалавек асобную кватэру – і ўсё, хана, замкнуўся ў сваім вузкім эгаістычным сьвеце. Ні бацькам не патэлефануе, нават суседзяў па пляцоўцы знаць-ня знае. Тут табе й рост адчужэньня чалавека, што вядзе да грамадзкай напружанасьці.

А тут – бац! Ваду адключылі. Здаецца, непрыемная дробязь. Але чалавек чалавеку становіцца бліжэй. Чаго толькі варты такі рытуал, як прыйсьці памыцца да сваякоў, родзічаў, знаёмых, сяброў. Тут дзеля чысьціні не заўважыш любыя сваркі. І ня трэба забываць, што ў краіне распачаўся шырокі грамадзкі дыялёг. А як Прэзыдэнту прымусіць апазыцыю да перамоваў? Вядома ж, адключыць гарачую ваду ды запрасіць да сябе памыцца. Дзеля павышэньня камунікацыйнасьці.

**Віктар Майдадыраў**

# Каляндар ад «Радыё Свабода»

Да чаго толькі не дадумаюцца апазыцыйныя акулы пяра, каб не падпсаваць нэрваў бацьку. Зґараючы ад нецярплівасьці хутчэй пакласьці канец дыктатуры, яны йдуць на самыя абсурдныя правакацыі. На гэты раз вызначыліся супрацоўнікі Радыё Свабода, што выпусьцілі каляндар на 2000 год. усё б нічога... толькі шэсьць месяцаў.

Разьлік наваяўленых Юліяў і Грыгорыяў нібыта верны: скараціўшы 2000 год удвая зрабіць так, каб да выбараў прэзыдэнта стала хаця б на паўгады бліжэй. Падобна дзецям, якія пераводзяць стрэлкі гадзіньніка наперад, «каб хутчэй прыйшла мама».

Як вядома, добрымі намерамі забрукаваня дарога ў пекла. Ня цяжка прасачыць, што за гэтым «найноўшым» стылем стаяць усё тыя ж цёмныя сілы. Мяркуйце самі. Паводле свабодзіянскага стылю, 2001 год (год выбараў прэзыдэнта) настане з 31 кастрычніка на 1 ліпеня. Новы год, як бачым, супадае з д'ябальскім сьвятам Хэлоўіну. А калі палічыць яшчэ шэсьць месяцаў да «2002» году, то можна пераканацца, што наступны Новы год прыпадае з 30 сакавіка на 1 мая – Вальпургіеву ноч – зноў такі шабаш нячыстай сілы. Дык з кім вы, шаноўныя спадары-дэмакраты, са сьвятлом ці зь цемрай?

**2000**

Травень

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

Чэрвень

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | |

Ліпень

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

Жнівень

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

Верасень

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | |

Кастрычнік

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

**Беларуская служба Радыё Свабода**
**Чэхія** Vinohradska 1, Praha 11000 CZ
**Беларусь** п/с 111, Менск, 220005
**Інтэрнэт** WWW.SVABODA.ORG

# Разборкі ў Львове

## Забіты расейскамоўны сьпявак

*«Здоровэнькы булы, Мурко, моя дорогая. Здоровэнькы булы, Мурко, і бувай!..»*

Менавіта гэтых радкоў ня ведаў вядомы львоўскі сьпявак Іван Беньямінаў, калі мясцовыя браткі замуцілі разборку. Незадаволеныя тым, што ў рэпэртуары Беньямінава прысутнічалі выключна «маскальскія» песьні, братаны наехалі на небараку з патрабаваньнем выканаць гімн «Шчэ нэ вмэрла Украіна». Той ня здолеў узгадаць нават радку.

*«І за цэ, падлюка, кулю, вітрымай!..»*




# Схізма ў МФ

***Т**ое, пра што пісалі *Навінкі* ў мінулым нумары, адбылося! Днямі ўсе цэнтральныя газэты й офісы атрымалі факс (вядомая практыка «пазьнякоўцаў»), што купка рэакцыйных экстрэмістаў зрабіла пераварот у «Маладым Фронце». У маніфэсьце ў прыватнасьці гаворыцца:

«Апошнім часам г.зв. «папа МФ Севярын Павал ІІ» злоўжываў продажам індульгенцыяў для вячоркаўцаў. Праз гэта Севярынец, Шыдлоўскі, Лабковіч, (сьпіс з 234 асобаў) адлучаюцца ад МФ».

Падзеі ўжо атрымалі свой працяг. Стала вядомая афіцыйная рэакцыя Варвашэні-8, які абвесьціў Кавальчука і Ко раскольнікамі й адшчапенцамі. У прыватнасьці, шэры кардынал МФ А.Шыдлоўскі паабяцаў пайсьці крыжовым паходам на ератыкоў.



# *Пуцін стане папам?*

«**П**апа едзе!!! Едзе папа!!!» Уся публіка нібыта зьвіхнулася на гэтай навіне. Гэтую амаль дзіцячую радасьць лёгка зразумець. Будзь ты хоць стократ праваслаўным фундамэнталістам, а вось так шчыра па-спажывецку, прызнайся, хочацца пабачыць жывога папу. Дэвіда Капэрфільда мы ўжо зырылі, Майкл Джэксан да нас прыяжджаў, Клінтан ужо задалбаў сваімі наездамі. А вось Вайтыла – гэта нешта новае на рынку мас-мэдыя. Хутка, хутка мы пабачым белую сутану пантыфіка і ягоны зэбаўскі папамабіль. За агульным экстазам мы неяк забыліся, якія гарызонты адчыняе перад намі зблізжэньне з Ватыканам. Ходзяць упартыя чуткі, што Пуцін у самім хуткім часе прыйме каталіцтва. Гэта геніяльны крок з пункту гледжаньня расейскай зьнешнепалітычнай гульні.

Цяпер можна будзе як 1000 гадоў таму забабаніць агульнахрысьціянскі крыжовы паход супраць няверных на Каўказ. Наперадзе крыжакоў заяцянуты ў камуфляж чырвоным крыжом выступіць рыцар Пуцін Храбрае Сэрца. А чаму б пад гэтай маркай не аднавіць інстытут сьвятой інквізыцыі і не пасласць на вогнішчы ўсіх дысыдэнтаў? Гэта надасьць расейскаму Прэзыдэнту аўтарытэту ўва ўсёй ойкумэне, так што ён, чым бог не жартуе, у адзін цудоўны дзень атрымае ключы сьвятога Пятра... Папа Пуцін! Гэта, пагадзіцеся, гучыць.

# БДУ-ксфард?




Хутка ў БДУ якасьць адукацыі будзе такой сама, які і ў любым прэстыжным замежным вузе» – сьцьвярджае сьвежаабраны рэктар БДУ сп. Казулін. Не, ня бойцеся, ніхто не скасаваў абавязковае разьмеркаваньне й не заказваў крутых кампутараў у кожную аўдыторыю. Казулін па словах *БДГ* вырашыў зрабіць усё цывілізавана, без рэвалюцыйных пэртурбацыяў. Першымі, хто адчуе эўрапеізацыю адукацыі будуць студэнты-платнікі. Для іх падрыхтаваны прыемны сюрпрыз: кошт адукацыі за 1 год будзе складаць ні больш-ні менш як 20 кускоў бакаў. Прыкладна столькі каштуе адукацыя ў наварочаным прэстыжным Кэмбрыджы ці Оксфардзе. Так што, калі вы маеце жаданьне атрымаць добрую адукацыю і маеце на гэта патрэбную суму – падумайце: нашто далёка езьдзіць? Давайце вашы грошыкі сюды ●



 

# Зноў заказалі «Лідзкае»




***Пакуль нашы мажоры трацяць бабкі на «Балтыку» або «Хольстэн», рэальны істэблішмэнт па паняцьцях заказвае «Лідзкае».***

**У** адрозьненьне ад сталічных бровараў «Крыніца» і «Аліварыя», «Лідзкі піўзавод» заўжды вызначаўся сваёй пранырлівасьцю. Замест таго, каб гнаць піва да алімпіяды або дня Перамогі, Ліда ўва ўсю рубіла капусту з сур'ёзных заказчыкаў. Спачаку сваё піва «ПРІОРытэтнае» заказаў «Пріор-Банк», потым да чэмпіянату Расеі – ФК «Спартак». Цяпер жа ў «Лідзкага» зьявіўся больш канкрэтны заказчык – вядомы крымінальны аўтарытэт Міхась, які заўсёды меў сэнтымэнт да ўсяго беларускага. Як нас запэўнілі правераныя крыніцы ў разьлівачным цэху, хутка зьявяцца новыя гатункі піва: «Япончык, крэпкае», «Кабзон, цёмнае» і «Беразоўскі, арыгінальнае» ●




## Ган Дон – прэм'ер-міністар?

У лепшых традыцыях Чон Ду Хвана запраўляе ў Паўднёвай Карэі антынародная мілітарысцкая кліка. Нядаўна стаўленікам манаполіяў на пасадзе прэм'ер-міністра там стаў Лі Ган Дон. Сымбалічна, што асоба Лі Ган Дона была зацьверджаная акурат напярэдадні чарговага туру перамоваў паміж Паўднёвай Карэяй і КНДР. На фоне росту сымпатыяў на Поўдні да фігуры вялікага кіраўніка Кім Чэн Іра, белакарэйцы сапраўды заклапочаныя праблемай, як бы не падхапіць «чырвоную заразу» й захаваць раскол краіны надалей.

# Чорная метка для БДГ

«**Т**ак, так! Спачатку мы расстраляем усіх камунякаў. Потым трэба падпаліць Палац Рэспублікі. Створым кучу канцлягераў для унтэрмэншаў, загонім туды ўсіх жыдоў пархатых, брудных цыганоў і палякаў і будзем іх усіх страляць, паліць, расьпілоўваць бэнзапіламі ўздоўж і ўпоперак. А потым, а потым мы іхнымі трупамі будзем угнаяць нашу арыйскую глебу...»

Не, шаноўны чытач, гэта не цытата з Mein Kampf. Гэта артыкул самай з выгляду рэспэктабэльнай *Белорусской Деловой Газеты,* якая на праверку аказалася звычайным рэклямным дадаткам да *Voelkische Beobachter* і *Русского Порядка.* Такой адкрытай правакацыі ня мог сабе ўявіць нават самы адчайны хартыст Бандарэнка ў самым сваім кашмарным сьне.

Улады спрацавалі бездакорна: пасьля трохмесячнага дэталёвага вывучэньня крамольнага матэрыялу, Дзяржкамдрук вынес *БДГ* усяго два папярэджаньні за распальваньне міжнацыянальнай варожасьці.

А тыя яшчэ носам круцяць. Відаць, мала далі ●




***Фашыстоўскія штурмавікі на занятках вывучаюць апошні нумар БДГ.***

# Катафоты на цялегу?

**У**жо каторы тыдзень па «яшчыку» навязьліва круцяць сацыялку пра мужыка на возе й мянта-даішніка, які гэтак натуральна й нахабна дакалёбваецца да кіроўцы гужавога транспарту, нібы той расьсякае на наварочанай іншамарцы.

Ад такіх рэклямаў кідае ў пот любога працаўніка сяла. Яснае дзела, ты ў поле едзеш касіць, а да цябе мент тут як тут: «А дзе нумар цялегі? Чаму катафоты блізкага сьвятла не фурычаць. Чаму халодная зброя ў салёне?» І ў такім духу. А за ўсё ж, вядома, капейку трэба даць. Народ загудзеў. Маўляў, і так жыцьця няма простаму селяніну. А тут яшчэ гэткая прапаганда міліцэйскага гвалту, ды яшчэ па ўсіх каналах! Хацелася б супакоіць простых вясковых бабулек і дзядулек. Ніхто на простага чэснага чалавека залупацца не зьбіраецца. Справа ў іншым.

> «Калі б я імеў каня – катафот на номер, калі б конь імеў міня, я б напэўна помер!»

У які шок былі б павергнутыя тэлеглядачы, калі б даведаліся, колькі бабла у гэтага мужыка з рэклямы! Галоўную ролю ў роліку выконвае ня нейкі прыгонны актор-селянін, а круты банкаўскі дзялец. «Чаму на возе?» – спытаеце вы.

Апошнім часам у «быкоў» распаўсюдзілася мода купляць ня новенькія BMW, Ferarri ды «мэрсы», а расьсякаць паветра на вазах, такога кшталту, як у рэкляме. Калі вы сечаце ў крутых брычках, а ня толькі ў маторах, то ведаеце: воз вазу – вялікая розьніца. Нармальная цялега мае адпаведнае кляймо, якое ўнушае давер (напрыклад: Alfa Romeo, Landrover або Cover Jeep). Яна й каштуе адпаведна ад 30 штук зялёнымі. Вельмі важна й тое, каго запрагаць у гэты наварочаны воз. У цяглавай моцы перавага аддаецца арабскім скакунам па 2-3 лімоны за галаву. Аматарам экстрыму літаральна зрывае дах ад магутных валоў. Так што, уладальнікі вазоў усё ж рызыкуюць. Тут таксама ёсьць і свой пазытыўны бок. З такой брычкай любая баба ваша. А што ж вы думалі, крутая сэксапільная цёлка ня скокне ў лахарскую развалюху.

Простым пацанам зь іхнымі таётамі, вольксвагенамі ды іншай рухлядзьдзю застаецца толькі адно падвесіць чыгунную гіру да сваіх чэлесаў і чакаць, калі нарэшце зьменіцца капрызная мода ●

**Ігнат Самаходаў**

# Палітычныя дыялёгі




**В**ы не ўяўляеце, колькі высілкаў каштавала дзядзю Сэму, каб аднавіць перамоўны працэс паміж беларускай апазыцыяй і ўдадамі. Фанабэрыстыя апазыцыянэры ўвесь час прыдумлялі сабе розныя адмазкі, каб толькі ня йсьці да бацькі на паклон. Аднак варта было Сэму толькі прыпалохаць, што Амэрыка ня будзе плаціць ставак былым дэпутатам Вярхоўнага Савету, калі тыя ня пойдуць на выбары, пыху з дэмакратаў як рукой зьняло. І хаця ёсьць яшчэ ламаньні наконт умоваў удзелу апазыцыйных партыяў у восеньскіх выбарах, працэс палітычнага дыялёгу пайшоў.

Рэжым і апазыцыя ўжо паціху азнаёміліся з павадкамі й звычкамі сваіх апанэнтаў. Яны ўжо прызвычаіліся не шугацца адзін аднаго ў кулюарах ці прынамсі ня ўскокваць са сваіх месцаў. Цяпер справа за вязкай ●

## *КурʼЁзы*

### Быкаў папаў.

Ненаталяльная прага да падарожжаў, якая апантала вялікага беларускага пісьменьніка, згуляла з Васілём Быкавым злы жарт. Атрымаўшы нахаляву жаданую паўгадавую нямецкую візу, Быкаў нечакана для сябе ператварыўся ў закладніка: візу падсунулі аднаразовую. «Дык у чым праблема?» – спытаеце вы. – «Быкаў можа ў любы момант выехаць зь Нямеччыны». Сапраўды, віртуальная магчымасьць выезду існуе. Але пакажыце мне тую гарачую галаву, якая дабраахвотна расстанецца з халяўнай нямецкай візай і паедзе дахаты раней чым трэба? Вядома ж, што Быкаў не з такіх адорвышаў. Між тым, беларускія дыяспары думаюць-гадаюць, чаму афіцыйны Бэрлін так лоўка накруціў зь візамі. Зразумелы ўсім адказ тут знайсьці цяжка. Можна меркаваць, што Нямеччына помсьціць беларускаму праўдарубу за аб'ектыўнае асьвятленьне падзеяў другой сусьветнай вайны. Відаць, не забыліся фрыцы пра рэалістычныя творы Быкава, дзе немцы фігуруюць далёка ня ў якасьці шчодрых бюргераў, што раздаюць налева й направа гуманітарку. Аднак калі нехта ў Бэрліне спадзяецца, што Быкаў, нібыта прыгнаны падчас вайны гастарбайтэр, які будзе сядзець у Нямеччыне й ціха карпець над кніжкамі пра слаўныя подзьвігі вэрмахту на Ўсходнім фронце, хай тыя крута абламаюцца.

# ДЗЕТКІ




## Усё больш дзяцей устаюць на шлях гвалту над дарослымі

# Крывавыя нфавы



Ня буду вам пудрыць мозгі рознымі завумнымі тэорыямі наконт маладзёвай злачыннасьці і падлеткавай дэвіянтнасьці. На самой справе ніхто з гэтак званых псыхолягаў-шарлатанаў, якія так і імкнуцца ўлезьці ў дзіцячыя душы ў пошуках «салодкага», ня дасьць вам сёньня адказ, чаму малады чалавек ці дзяўчына пакідаюць свае цацкі ў дзіцячым пакойчыку, бяруць у рукі зброю і ідуць забіваць бацькоў (вядома ж, што ў якасьці маці і бацькі можа выступаць і бабулька-суседка, якой да ўсяго ёсьць справа, і ўчастковы міліцыянэр, які «во як дастаў « і «жыцьця не дае»). На самой справе адказ самы просты – біялягічная барацьба маладых за існаваньне.

Найбольш яскравым прыкладам «бессэнсоўнага і бязьлітаснага» маладзёвага бунту зьяўляецца забойства, якое зьдзейсьніў у Парыжы падлетак Алёша Палявы. Я ўпэўнены, што ўсе вязьні выхаваўчых каленіяў для непаўналетніх шмат бы аддалі, каб паглядзець як курчыўся з куляй калібру 5,45 мм у мазжачку ягоны бацька-гэбіст і пускала перарэзаным горлам юшку лярва-мачаха, былая настаўніца. Але размова зараз не пра замежных забойцаў-герантафобаў, а пра беларускіх бунтароў са старой сьмярдзючай цьвільлю.

Шэрыя аднатыпныя шматпавярховікі мікрараёну Шабаны. Побач – прамысловая зона дыхае перагарам вытворчасьці і пазбаўляе розуму сваймі жалезабэтоннымі пэйзажамі.



Страшна але факт. Бацькі і школьныя настаўнікі часьцей за ўсё становяцца ахвярамі сваіх ня ў меру агрэсіўных чадаў.

Напрыканцы тыдня перад падлеткам стаіць альтэрнатыва: схадзіць у адзіны на ўвесь раён відэасалён – дыскатэку, ці зьезьдзіць у цэнтар і разам зь сябрамі набіць хлябальнік і забраць грошы ў якога-небудзь нефармала.

Вось у такім асяродзьдзі і прайшло ўсё сьвядомае жыцьцё пятнаццацігадовага Вадзіма N. Бацькі хлопца былі звычайнымі алкашамі і зусім не падзялялі адраджэнскіх поглядаў Вадзіма. Малады патрыёт навучыўся суіснаваць з ахвярамі дзяржаўнай палітыкі на алькагольным рынку, і так бы яны й жылі далей, калі б бацька з маці не прапілі ўсю маёмасьць у кватэры, і Вадзім не знайшоў грошай, каб даехаць на мэтро да плошчы Я.Коласа, дзе апазыцыя праводзіла чарговы мітынг.

Помста сына была жахлівай. Хлопец употайкі падсыпаў пацучынай атруты ў самагонку, што жлукцілі бездухоўныя маргіналы. Бацька выблёўваў крывавыя кавалкі страўніку, так і не дапоўзшы да санвузлу. Маці пакутавала больш: сьмерць прыбрала яе толькі праз некалькі часоў. Больш ніхто не пачуе хрыплага жаночага крыку ля пункту прыёму шклотары: «Я тут першая стаяла!»

Пасьля акту рэваншу Вадзім адчыніў усе вокны, каб сьвежы вецер выдзьмуў з хаты затхлы алькагольны смурод. Потым хлопец назаўжды пакінуў родны дом і пешшу накіраваўся да цэнтру гораду. Мінакі бачылі на яго твары шчырую ўсьмешку.

Ідзі наперад, Вадзім, не спыняйся! Хай цябе пашчасьціць у тваёй барацьбе!

**Алесь Брудзіла**

### КаранІ

## Небясьпечныя цукеркі

«Эпілептыкі», «Расьціснутая жаба», «Лісы блююць»... Згадзіцеся, гэтыя назвы вельмі кантрастуюць з нашымі «Вясёлыя рабяты», «Мішкай на поўначы» ці «Кароўкай». А між тым гэта назвы цукерак для дзяцей.

Сумна, але факт: новае пакаленьне ўжо даўно не выбірае «Пэпсі» ці хаця б «Бураціна». Яны клянчаць у сваіх мамак напоі кшталту «Цягучыя памыйныя соплі» ці «Блявоціна Більлі».

І такія густы дзяцей і моладзі без праблемаў ставяцца на канвэер чыстаганам. Капіталюгі ні на хвіліну не задумаюцца, што можа вырасьці з падлетка, які зь дзяцінства ўжываў шакаладны батончык «Чэлес папуаса», дражэ «Вочы немаўляці» і зажоўваў жуйкай «Татавы храшчыкі». А потым там, на Захадзе зьдзіўляюцца, чаму сямігадовыя дзеці такія агрэсіўныя й пры першай жа аказіі спрабуюць пастрэліць мозгі сваёй мілай мамачцы...



# ДЗЕТКІ




# Дамастрой? Yes!!!

## *Як пазьбегнуць «дэмакратызацыі»*

Пароць дзіця ці гладзіць так, каб не заставалася сінякоў – такая амаль шэкспіраўская дылема стаіць рубам перад кожнай маладой парай, што па залёту абзавялася бэбі. Наша рэдакцыя рэкамэндуе – калі вы маеце хоць трошкі патрыятычных сэнтымэнтаў – біце вырадка як сідараву казу!!!

Ня думайце, што мы садысты або трывіяльныя bizzar-вычварэнцы. Проста мы шарым у псыхагістарычнай тэорыі Ллойда Дэмоза, працы якога павінны стаць падручнікам для кожнага славянскага патрыёта.

Галоўны пасыл Дэмоза: гісторыя ўключае праігрываньне дарослымі групавых фантазіяў, заснаваных на матывацыі дзяцінства. Рэформа выхаваньня заўсёды прадвесьнік палітычных трансфармацыяў у грамадзтве.

Ня так даўно башкавіты Дэмоз разрадзіўся артыкулам «Аксамітавая рэвалюцыя. Вытокі дэмакратыч-ных рухаў ва Ўсходняй Эўропе». Аўтар аналізуе гістарычныя формы выхаваньня ў нашай краіне і лічыць, што палітычныя кашмары царызму і сталінізму сталі наступствам традыцыйных кашмараў расейскага дзяцінства. «Тыповыя для расейскага характару страх незалежнасьці, перапады настрою, патрабаваньне зьнешняга кантролю ёсьць рэзультат доўгага пеляланьня, эмацынай ізаляванасьці ў дзяцінстве і халоднасьці з боку бацькоў. Як сьпеляналыя дзеці плачуць, калі іх вызваляюць з бандажу – гэтак таксама дарослыя, якія эмацыйна былі сьпеляналыя як дзеці, патрабуюць, каб іх зноў плотна закруцілі ў анучкі (чытай, вярнулі ў таталітарныя аковы былой палітычнай сыстэмы).

Формы гвалту над дзяцьмі станавіліся мадэльлю палітычнага гвалту з боку Крамлю, КГБ і Гулагу.



Зьлева: Так растуць дэмакратычныя ўроды. Справа: а так загартоўваюць сапраўдных патрыётаў.



Демоз рэзюмуе: двухсотгадовая адтэрміноўка рэформы выхаваньня дзяцей зьяўляецца прычынай адтэрміноўкі двухсотгадовай палітычнай рэформы ў Расеі ў параўнаньні з Захадам.

Сваю тэорыю аўтар ілюструе на прыкладзе Іосіфа Сталіна: чаму Сталін быў такім афігенным патрыётам. Адказ ведае Ллойд Дэмоз. У Сталіна быў бацька-алькаголік, які меў звычай учыняць жонцы і дзецям страшэнныя разборкі, біў іх ботамі і нават хацеў забіць. Маць таксама біла сына. Можна было спрагназаваць адразу, што стаўшы лідэрам, ён загубіць мільёны суайчыньнікаў. Антыподам Сталіна вытстýпае – Гарбачоў. Горбі, па ўспамінах яго таварыша меў фрустрыяваных бацькоў, якія дазвалялі яму, што называецца, стаяць на вушах. Ня дзіўна, што калі Мішка дарваўся да пасады генсека, краіна пагрузілася ў акіян паскарэньня, анархіі і безалькагольнай сьвістапляскі.

Тыя ж расклады дзейнічаюць і сёньня. Усё вельмі празаічна: будучыня краіны залежыць ад таго, будуць ці не працягвацца рэгулярныя пабоі ў сям'і. Калі так – вашы дзеці падхопяць мэнтальныя традыцыі грамадзяніна. Калі будзеце міндальнічаць мірازданьне РБ зьвіхнецца з сваіх асноваў. Стаўкі зробленыя, таму не цягніце з часам. Рэмнем падлюку і ў кут на гарох. Няхай сынок (ці дачка) расьце патрыётам!!! ●

**Жыгімонт Фрэйд**



# Антыпэдагогіка

«*К*алі ты маеш праблемы з апрананьнем прэзэрватыву, твая дзяўчына заўсёды дапаможа ўскіпяціць цябе». Цытата ня зь нейкага *СпидИнфо* ці *Двое*. Гэта зь перадавіцы новага гарадзенскага часопісу *Антыпэдагогіка*, разьлічанага на школьнікаў. Гэта экспэрымэнтальная распрацоўка новай мэтодыкі ў адукацыі падлеткаў у цяжкі пэрыяд полавага сасьпяваньня – мэтодыкі «25 радку», якая ўключае ў сябе чаргаваньне школьнай тэорыі з порназдымкамі. Новае выданьне выклікала самы дыямэтральны рэзананс сярод чытачоў, галоўным чынам занепакоеных бацькоў.

***Ліст бацькі.***

Ну, вы блін, даёце. Мне мой Вова гэты часопіс учора прынес. «Паглядзі», – кажа, – «бацька, як нейкія дылетанты ізгаляюца». Я зразумеў, што прыйшоў час выводзіць «отрака» ў сьвет. Пайшлі ў піўнуху, дзе за воблай і бакалам «Атэла» адбылася мужчыская размова бацькі з сынам. Пасьля шостай я зразумеў, якую вялікую місію ўзялі на сябе аўтары Антыпэдагогікі. Яны паставілі на ногі майго Воўку. Мне таксама часопіс падабаецца. Цэлы дзень на «Азоце» сядзелі брыгадай і зыркалі ілюстрацыі, чытаючы артыкулы па філязофіі, гісторыі, паліталёгіі і міжнародных адносінах. Каб у нас у школе было такое цудоўнае выданьне, мая жонка не залецела б у сёмай клясе і я змог бы атрымаць сярэднюю адукцыю. А так.. Да што там казаць, добрую справу робіце хлопцы!

***Ліст маці.***

Зараз на БТ вельмі папулярны ролік пра тое, што трэба ўвесь час сачыць за дзецьмі на прадмет спажываньня наркотыкаў. Гэта, як кажа дыктар, не недавер, а апраўданы кантроль. Учора, наглядзеўшыся БТ, я палезла ў ранец майго нягодніка і натыкнулася на нейкі маленькі часопіс *Антыпэдагогіка*. З вокладкі на мяне глядзела парачка непаўналетніх каханкаў, якія, кувыркаючыся на ложку, паўтаралі фізычныя формулы. Лепш бы ён, паршывец, прымаў наркотыкі або клей нюхаў! – падумалася мне. Гэта ж сапраўдны жах! Ня ведаць элемэнтарных фізычных законаў, зубрыць фізыку ў гэткай позе. Ён жа сабе храбет ці ключыцу зламае. Каб адбіць у сына прыліў гіпэрсэксуальнасьці, вырашыла прымусова падпісаць яго на *Молодёжный Проспект*. Навошта нам фізыка? Няхай лепш ідзе ў сур'ёзную палітыку. ●

**Падпіску можна аформіць: 230009 г.Горадня, п/с87**

# NRM: праявы шаманізму?

## *Раскрылася праўда прапагандысцкай вайны.*



29 траўня ў к/з «Менск» ВіА «NRM» ладзіў ці-то канцэрт, ці-то пэрфоманс, ці-то прэзэнтацыю, ці яшчэ якую падобную трасцу... Канцэрт быў дзіўны – незвычайны быў канцэрт. Але, што да чаго, ніхто толкам дагэтуль не распавёў. Каб высьветліць акалічнасьці, мы зьвярнуліся да сьведкі падзеі, сьлесара-інструмэнтальшчыка, удзельніка апазыцыйных дэманстрацыяў, сталага чытача *Навінак* Яўхіма Аўцабычанкава.

***«Н»: – Спадар Аўцабычанкаў, як усё было?***

***Я.Аўцабычанкаў:*** – Выпадкова йшоў міма КПЗ «Менск», гляджу – тусьняк, і ўсе цьвярозыя! На пікет не падобна... Думаў, можа якія сэктанты сабраліся? Прашчыміўся пад выглядам журналіста усярэдзіну, і ўбачыў, што ў барчыку нікога няма! Хаця піва ня сільна дарагое, і водачку купіць можна... Раптам з залі крыкі громкія: «Гамон! Гамон!». Ну, усё, думаю, патрапіў пад раздачу – начаваць буду на Акрэсьціна. Выясьнілася, што гэта была ўсяго толькі прэзэнтацыя гэтак званага «Радыё Гамон» – канцэрт NRM. Ясна, я не малалетка які-небудзь, каб перціся ад NRM, але відовішча мяне ўразіла. Ня столькі фэны, якія забілі ўсю залю і скокалі, нібы чэрці на патэльні. Але міліцыянты з аховы, якія скокалі разам з усімі, плёскалі ў далоні, сьвісталі, рагаталі, а адзін, дык нават сьлёзы захапленьня выціраў. О так!

***«Н»: Дык чым жа выкліканыя такія дзіўныя паводзіны прысутных у залі?***

***Я.А.:*** Гэта ж шаманства чыстае вады! Гэта ж ясна! Прыдумалі гэтае «Радыё Гамон», гэта, знаеця, запісаныя такія кавалачкі, падобныя на радыёэфір. Там усялякую дурноту гаварылі, кшталту «Радзіма-мая-дарагая» ці «Па-вашых-заяўках», а самі на ультрачастотах запісалі розныя ўнушэнія: «Сьмейся», «Танчы», «Плёскай у далоні» і д.т.п. Таму й стварылася вонкава радасная атмасфэра – спэцыяльна для тэлевізійных камэраў. Але, зазамбіраваныя такім кашпіроўскім чынам гледачы на раніцу ня мелі ў сваёй галаве нічога, апрача болю. Дзе былі? Што рабілі? Ніхто не дае адказу. О так!

***«Н»: Якім жа чынам вы пазьбеглі жахлівага ўзьдзеяньня разбуральнага гіпнозу?***

***Я.А.:*** Перад тым як забрысьці на гэтую вакханалію, я прыняў на сваю душу бутэлечку віна «Прамяністага» і стаканчык брэндзі «Крышталь». Ну, а як пабачыў якія справы адбываюцца на канцэрце, адразу ж хлопнуў у барчыку паўтара стаканчыка водачкі «Белая Русь». Вы ж знаеця, эта ж праверaны народны спосаб ад любой чартаўшчыны... Я ж па мітынгах пахадзіўшы, там жа ж таксама праз мэгафон мянты гавораць «расхадзіцесь, расхадзіцесь» – на мозг узьдзейнічаюць. Ясна, людзі разыходзяцца – камянямі пачынаюць шпурляць. А я не такі. Я адразу ж бягу ў бліжэйшы барчык – бараніцца ад шкоднага ўнушэнія. О так!

***Ад рэдакцыі:***

На разьвітаньне мы налілі спадару Яўхіму Аўцабычанкаву шкляначку кефіру. Але засталося пытаньне: якім чынам засьцерагчыся ад зьнешняга гвалту над псыхікай? Мы ўжо ведаем пра 25-ы кадар, які ўжывае таварыш Зімоўскі ў сваім «Рэзанансе», цяпер во – апазыцыя занялася падобнымі выкрутасамі... Дык уздымем «стаканчык» з кактэйлем Аўцабычанкава за здароўе нацыі! ●

Матэрыял падрыхтаваў **Мар'ян Лячылка**

NRM нарэшце разрадзілася першым у Беларусі мультымэдыйным CD пад незразумелай назвай «Samotnik». Першапачатковыя спробы перакладу, такія як «жмотнік», «шмотнік» ды інш., ні да чаго не прывялі. Як нам патлумачыў вядомы музыказнаўца Вітаўт Мартыненка, слова «самотнік» перакладаецца простым беларускім словам «сынгл».

# Пільнуйцеся падробак!

## Краіну навадніліі банды псэўда-пэрформэраў, якія выдаюць сябе за вялікіх майстроў жанру.



***«Прыбярыце камэру! Яна перашкаджае маёй пэрфомэрскай думцы!» – абураецца вялікі пэрфаматар.***

Трывожны сыгнал паступіў з рэгіёнаў. Тут выставілі магілеўскую багему. Аказалася, што тая багема замуціла пэрсанальную выставу мастака ірыны Рапей. З такой сур'ёзнай прычыны пастанавілі выпісаць з сталіцы шоў-групы «Тэатар Псыхічнай Неўраўнаважнасьці» і «Брыгаду Афрыканскіх братоў» пад кіраўніцтвам З.Вішнёва, якія павінны былі паказаць свае пэрфомансы.

Вішнеўцы прыехалі. Засяліліся ў кватэры. Паказалі пэрфоманс. Узялі ганарар. і звалілі.

А праз гадзіну да ўсіх дайшло, што Вішнёў быў не «настаяшчым».

Дзе ж апраставалосіліся магілёўскія калегіі Справа ў тым, што пэрфоманс – аб'ёмнае паняцьце, якое хавае ў сабе якія заўгодна формы самарэфлексіі мастакоў. Напрыклад, вы ідзеце па вуліцы і на вас пачынае лаяць голы мужык на ланцугу. Гэта ня псіх. Ведайце – гэта пэрфоманс спадара Куліка. Або нехта намаляваў сымбаль даляра на вашым беласьнежным Вольва, а побач пакінуў ляпёшку экскрымэнтаў. Гэта пэрфоманс мастака Брэнэра. Нарэшце, калі перад вашым пад'ездам акуратная куча навозу – тут засьвяціўся Алесь Пушкін.

Цяпер вы можаце сабе ўявіць, што жанр пэрфомансу дазваляе бязь цяжкасьцяў аблапошваць публіку, выдаючы ўсё гэта за нейкія мастацкія прыёмы. Нешта падобнае мела месца ў Магілёве, дзе ў якасьці прыёму фігуравала «нага Вішнёва» (рэцэпт «нагі» – падтухлы фарш, аржаныя шматкі, дрожджы і г.д.; усё зроблена для максымальнай сьмярдзючасьці «нагі Вішнёва»). Пэрфоманс пачаўся з таго, што нейкі адмарозак пачаў насіць нагу па галерэі, прапануючы гасьцям паласавацца. На гэтым яго ледзь не злавілі. Магілеў ня Менск. У галоднай правінцыі, дзе людзі месяцамі не атрымліваюць заробак, на нагу адразу знайшлося маса ахвотнікаў. Нейкі малады чалавек з імпэтам учапіўся ў нагу заднімі разцамі і потым грамагласна заявіў, што гэта не «нага Вішнёва» (ён быў ужо знаёмы з творчасьцю вядомага менскага пэрформэра і ведаў, што фарш мусіць добра падгніць). Гурман спрабаваў давесьці, што гэтыя людзі – не мастакі, а звычайныя афэрысты. Аднак наіўныя правінцыялы адцягнулі яго ў бок, шыпячы праз зубы: «Ня бэсьці нас, мудзіла, перад менскімі».

Пэрфоманс далі адыграць, пасьля чаго ілжэ-Вішнёў і Ко зьніклі ў напрамку лякальнай віннай кропкі. Самае сьмешнае, што ў гэты самы час сапраўдны Вішнёў з сапраўднай нагой Вішнёва заклапочана хадзіў па плятформе магілёўскага вакзалу, не разумеючы, чаму яго не сустракаюць. Калі ж усё высьветлілася, прайдзісьветаў і дух прастыў. На шчасьце засталіся некалькі аматарскіх фота, зробленых падчас імпрэзы. Угледзьцеся ў гэтыя нахабныя твары. Калі дзе-небудзь на вашым сельскім клюбе вы наткнецеся на гэтыя фізіі, патэлефануйце Вішнёву ●

**Гальяш Сьвірын**

# Разуйце вОчы:

Не пасьпелі нашы доблесныя апера прарвацца і вылічыць усіх відэакарсараў, як новы спрут наклаў цень сваіх шчупальцаў на відэа-грамадзтва. Яшчэ ў 20-ыя гады Астап Бэндэр аўтарытэтна сьцьвярджаў, што дзякуючы разьвіцьцю тэхнікі амэрыканскую пашпарціну падрабіць лягчэй, чым знайсьці стул з гамбсаўскага гарнітуру. Што тады ўжо казаць пра тое, як скляпать сёньня кароткамэтражку, на якой тым больш можна няблага падкалыміць.

Прыкладна год таму гэтую залатую жылу намацалі аўтары фільму «Ведзьма Блэр», які быў зьняты групай турыстаў аматарскай камэрай так, дзеля прыколу. За гэты фільм яны атрымалі прорву кінапрызоў. Яшчэ далей пайшоў вядомы менскі кінааматар Максім Жбанкоў, які ў хатніх умовах кляпае фільмы, паказвае іх менскай публіцы і робіць на гэтым шалёныя грошы.

У нялёгкай справе абуваць лашарыкаў Максіму дапамгае досьвед былога кінамэханіка (калісьці, працуючы ў кіношках, людзі гэтай прафессіі нарэзалі для сябе кадры, што двухгадзінавая «Сэксмісія» ператварылася ў 30-хвілінавы кліп «Новыя Амазонкі»).

Другая рэзэрва для кінападробак – хатняе відэа, якую наш падпольны Фэліні закупае за бясцэнак скупае ў публікі. Тое, што не пайшло на конкурс «Сам сабе рэжысэр» прыводзіцца у нейкі больш-менш прыстойны выгляд, на застаўку ставіцца фірмовая лэйба кшталту «Парамаўнт пікчэр», а на фон



усёй сям'ёй зачытваецца завумны тэкст. Такім чынам ня цяжка змайстрачыць касэтаў 5-7, якія потым аб'яднаць у адзін цыкл «Вельмі інтэлектуальнае кіно Ўнутранай Манголіі» або «Маладыя альтэрнатыўныя рэжысэры Палінэзіі». Вось табе й нажыўка для камплексанутай багемы.

і вось ужо колам лівэрнай кілбасы круціца злавонная чарга вакол білетных касаў «Піянэра». На сцэне публіку ўжо чакае Жбанкоў і «прадстаўнік» якой-небудзь амбасады (сябра Жбанкова па кінатэхнікуму). Пітэрс-Такер анансуюць стужку порцыяй хрэнацені, ад якой замілаваная публіка проста ташчыцца. Цяпер чарга фільму. Наступныя паўтары гадзіны, расьпіраючыся ад сваёй прадвінутасьці, эліта будзе намагацца ўехаць у сэнс абсалютна бессэнсоўнага сюжэту. Адзінага, каго ня будзе ў залі – самаго Максіма. Ён сьпяшыць дахаты, каб не прапусьціць чарговых «Мянтоў» ●

**Мікіта Міхалкоў**

# БасОвішча

## Усім! Усім! Усім!

**17 – 18 ЧЭРВЕНЯ** а 18:00 ў клюбе Альтэрнатыва (вул. Бяды, 4) пройдзе адборачны тур гуртоў на штогадовы фэст беларускай маладзёвай музыкі **БАСОВІШЧА** з удзелам: **СОНЦА МАО, КУКЛЫ, КАМЭЛОТ, POSTSCRIPTUM, HAPPY FACE, БЕЗЬ БІЛЕТУ** і іншыя. У якасьці гасьцей выступіць гурт **КРАМА**. Жадаючыя прыняць удзел у адборачным туры павінны прадаставіць 15 – 20 хвілінны беларускамоўны запіс. Сувязь з арганізатарамі: 220085 Менск а/с 5. Кошт квітка 1500. На два дні 2000.

**24 ЧЭРВЕНЯ** ў Наваполацку ў Гарадзкім Палацы Культуры пройдзе штогадовы фэст «РОК-КОЛА – 2000». Даведкі праз тэлефон: 02144-52592 (АНІСА).

**14 – 15 ЛІПЕНЯ** ў Гарадку пад Беластокам (Польшча) пройдзе штогадовы фэст беларускай маладзёвай музыкі «БАСОВІШЧА - 2000». Як звычайна ў першы дзень пройдзе конкурс маладых камандаў, а ў другі дзень выступяць пераможцы і зоркі беларускай і польскай рок-сцэны.




## Як дабрацца?

Вельмі проста. Набудзьце ваўчар прыкладна за 1 бакс. Дарога складаецца з трох этапаў:
1. Дабрацца да Горадні не складае цяжкасьцяў. Квіток у агульным вагоне зь Менску прыкладна 1 бакс.
2. Перасякайце мяжу на падсадцы за 1 бакс да Кузьніцы-Беластоцкай. Адтуль за 2 баксы да Беластоку на аўтобусе або цягніку.
3. Зь беластоку за 1 бакс накіроўваецеся ў бок Баброўца да Гарадка (Grodek).
Такім чынам, агульны бюджэт падарожжа ў адзін бок – 5 баксаў. А існуе яшчэ аўтастоп.

# Зь вераю ў родную прыроду

## Сэнсацыйная праца новазэляндзкага натураліста

*С.Харэўскі. «Зьвяры-суайчыньнікі». – Менск: Наша Ніва, 2000. – 92 с.*

Убачыўшы, як С.Харэўскі, зьнерухомеўшы, утаропліваецца ў невідочную кропку на сьцяне, супрацоўнікі рэдакцыі ўжо даўно не палохаюцца...

Пра якую б родную нам істоту ні апавядала таленавітае пяро С.Харэўскага – пра празьмерна пашыранага на абшарах Рэспублікі Беларусь рабога сусьліка ці пра заўважанага ў навакольлі Мазыра рэдкага на гэтай паралелі нацыянальна сьведамага пэлікана, які прылятае на танцпляцоўку паблізу Прыпяці, пагойдваецца ў тахт мэлёдыі і ўцякае ад непрыяцеляў з выразным крыкам «Жыве Беларусь!» – перад чытачом нязьменна паўстаюць жывакроўныя, псыхалягічна дакладныя вобразы крылатых, хвастатых, альбо нават падводных суайчыньнікаў, якія на вялікі жаль, пакуль пазбаўленыя права голасу.

Аўтар спакваля вядзе нас да канцэптуальнай высновы пра тое, што пэўныя віды прадстаўнікоў нашай фаўны ў розныя пэрыяды гісторыі выяўлялі лаяльнасьць і нават прыхільнасьць да ўласнай нацыянальнай улады (напрыклад, прыязныя дачсыненьні расамахаў з кіраўніцтвам Рады Случчыны) і пакідалі абсягі Беларусі, не жадаючы мірыцца з акупацыйнай адміністрацыяй.

Варта дадаць, што ў навуцы апісаныя выпадкі ня толькі пасіўнага, але й актыўнага супраціву акупантам з боку айчынных зьвяроў і птушак. Гістарыёграфы Слуцкага збройнага чыну ведаюць, да прыкладу, пра вельмі пасьпяховы напад аддзелу з 10-12 ужо згаданых расамахаў на бальшавіцкага камісара і двух ягоных ардынарцаў, зьдзейсьнены ў ваколіцах мястэчка Семежава, што ў цяперашнім Капыльскім раёне. (На месцы акцыі нядаўна ўсталяваная мэмарыяльная стэла.)

У гістарычных крыніцах знойдзеныя й зьвесткі аб супрацоўніцтве ўжо рэдкіх на той час дрохваў з фармаваньнямі генэрала Булак-Балаховіча ў справе дывэрсіяў на кантраляваных бальшавікамі палескіх чыгунках. Акурат пасьля аднаго з удалых выхадаў на «жалезку», калі ў раёне Петрыкава быў зьнішчаны вайсковы эшалён з тэхнікай, ГПУ й наладзіла карную экспэдыцыю, у ходзе якой чэкіст, былы піцерскі рабочы Біндзюжнікаў расстраляў апошнюю бачаную ў Беларусі драхву, вядомую балахоўцам пад любоўнай мянушкай Маня.

Згаданыя факты лішні раз сьведчаць, што эўрапейская будучыня Бацькаўшчыны станецца магчымаю адно ў выніку яднаньня ўсіх дэмакратычных плыняў нашага грамадзтва са здаровымі, нацыянальна арыентаванымі сіламі беларускай прыроды. Лепшыя старонкі кнігі Сяргея Харэўскага прасякнутыя сьветлай вераю ў непазьбежнасьць гэтага пераможнага альянсу ●

**Уладзімер Арлоў**

P.S. Гэтую выдатную кніжку можна заказаць у амбасадзе Новай Зэляндыі, консульстве Сынгапуру або праз рэдакцыю газэты *Навінкі* ўсяго за 500 руб.

Паштовыя пераводы разам з адваротным адрасам дасылайце на адрас: 220134 Менск, п/с 33. П.Канавальчыку.

Сяргей Харэўскі
ЗЬВЯРЫ-СУАЙЧЫНЬНІКІ

***Паводле сп.Харэўскага апошнім аплотам беларускай нацыянальнай ідэі зьяўляюцца апазыцыйна настроеныя жывёлы***




***Прачытаўшы гэтую брашуру, можна быць ўпэўненым, што БНФу поўны гамон. Лесьнікі не жартуюць.***

# Кола спусьціла...

## Праколы бэнээфаўскай прапаганды

*М.Бусел. «Гамонка хлопцаў-лесьнікоў з бэнээфаўцам». – Сьветлагорск: Дубровенскія Навіны, 2000. – 16 с.*

Адэпты скрайняй апазыцыі напярэдадні выбараў чарговы раз спрабуюць «ісьці ў народ». Вось і «Гамонка» (ад выразу «Дыктатуры – гамон!»; дэструктыўная праграма БНФ, замаскіраваная пад разборку лесьнікоў з нацыяналюгам) наглядна ілюструе амбіцыі дэмакратаў захапіць уладу ў краіне. Вытрыманая ў стылі сьярмяжнай *Мужыцкай Праўды*, «Гамонка» канкрэтна прамывае мозгі электарату, старымі дэмакрацкімі байкамі, кшталту: «Давайце яднацца ў Эўропу», «Ён жа друкуе грошы», «А ядрыць яго ў пень» і г.д.

Сапраўдным прарывам у бэнээфаўскім пі-ары зьяўляецца выкарыстаньне перадавых прапагандысцкіх тэхналёгіяў, пазычаных ці то з «Прадмовы Мялешкі» ці то з «Гутаркі з Паўлюком».

Неадпаведнасьць рэальнасьці ўсіх гэтых абвінавачаньняў і непамернасьць палітычных амбіцыяў яскрава ілюструе заключны эпізод «Гамонкі»:

«Бэнээфавец скочыў на лісапет, але празь некалькі мэтраў зразумеў, што задняе кола спусьціла. Ён зьлез зь лісапету і пакаціў яго.»

А калі ўладу ім даверыць? ●

**Мікола Салавей**










































# КОМІКС


ПУЦІН І ДЗЕЦІ
або ГІСТОРЫІ АД ПЕРШАЙ АСОБЫ-2


Пуцін любіў дзяцей. Бывала, падкліча да сябе, пагладзіць па галоўцы.


Усё пачалося ў горадзе Дрэздэне, дзе Пуцін некалі працаваў Штырліцам.


А ў нас у хаце газ. А ў вас?
А ў нас працівагаз. А ў вас?
А ў нас агенты «штазі» раздалбалі унітаз.
Пясочніца на рагу Блюмэнштрасэ і КарлМарксПляц


Захапіўшыся гульнёй у кулічы, дзеці не заўважылі, як падступіла бяда...
А цяпер сабе!


З-за вугла зьявіўся прафэсар Плешнэр, пед і граза дваровых рабяцішак
Мне не патрэбна ні шакаладу, ні мармаляду, а толькі...


Кіндэр, хочаш на «Трабанце» пракаціцца?
Не япі мозгі, пед, давай шакаладку — і хадзем


Паветра свабоды згуляла дурную штуку з прафэсарам Плешнэрам. Ён пакінуў на месцы злачынства важную ўліку.


Плейшнэр завалок дзяцей у аддалены закуток Дрэздэнскай галерэі і...


А-а-а-а! О-о-о-о! У-у-у-у!
Адбылося саме жудаснае.


На дзіцячай псыхіцы гэтая падзея пакінула глыбокі рубец.


POLIZEI
Аднак хлопчык Ганс, у адрозьненьне ад сваіх даверлівых сяброў, зьеўшы шакаладку, нікуды не пайшоў і адразу набраў тэлефон 911.
Хлопчык, хочаш пракаціцца на паліцэйскай машыне?
Э-э, дзядзя, спачатку шакаладку!
На месца здарэньня прыбыў асабіста агент Пуцін.


Агент Пуцін, паводле старай прывычкі вырашыў ужыць плян 85-а (лоўлю на жыўца). Пераапрануўшыся падлеткам, агент завіс у засадзе


Галубой вагон бежыт качаецца...


Ой якая ў цябе цудоўная песенька, кіндэр!
Злачынца не прымусіў сябе доўга чакаць


Дзядзь, а ты пакатаеш мяне на Трабанце?
Во пашанцавала, на мазахіста нарваўся!
Вораг клюнуў


Пяты, пяты, я Вазэлін. Прыём
Аент Пуцін рызыкаваў многім


Русо агенто, обліко морале!
Савецкі агент не паддаўся на сакусу і...


Рукі ўгору, прафэсар Плешнэр.
Ніхт фэрштэйн. Гітлер капут


Ай! Т-ля! Валодзенька, я ж цябе сажру!
Завязалася бойка. Аднак злачынца ня ведаў, што Пуцін на днях атрымаў чорны пояс па дзю-до.


Неўзабаве злачынца быў абясшкоджаны.


Добрая работа, геносэ Пуцін
Служу Варшаўскаму дагавору!
За гэты подзьвіг агент Пуцін быў ўзнагароджаны самім таварышам Хонэкерам


Вось так дзеці палюбілі Пуціна


А Плешкэр выйшаў па амністыі пасьля ўзьяднаньня Нямеччыны й зарабіў вялікія грошы на порна-сайтах. Вось такая кранальная гісторыя, мой маленькі сябра.
КАНЕЦ